Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem
ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.




| | | |
|---|---|---|
| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: **ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4** «МАЛАНКА» | **№ 1** **22 СТУДНЯ** **1927 г.** | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 год 8 злот., „ паўгода 4 „, „ тры мес. 2 „, „ адзін м. 1 „ — За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт. |

# Эндэцкая малітва.

**Польскі пан.** Божа! лепш зьнішч сваей маланкай мяне і маю сядзібу, каб я ня бачыў больш, як сяляне арганізуюцца, бо інакш з маей доўгагадовай працы на „крэсах“ будзе фіга.

33982
62547




# Навагодні падарунак.

Годы, годы за гадамі
Выступаюць у чарод —
І „Маланка“ з пярунамі
Спатыкае Новы Год.

Што далі гады старыя?
Нібы той наплакаў кот...
Вось у Новым — сэрца ные!
Ласкай дарыць Новы Год!

Кажуць, што нібы зямліцу
Нам Урад падараваў,
Проста, хоць яму капліцу,
Ты па памятку пастаў.

І паны загаласілі,
Нібы сьвіньні пад нажом,
Плач нясецца аж на мілі
Па ваколіцах кругом.

„*Польска земя*“ — для галоты,
Польскасьць гіне — гвалт пішы;
Нават жыць няма ахвоты,
Хоць лезь ў яму, да душы...

„З быдлам нас цяпер зраўнялі,
„Галава у галаву —
„Каб часамі не папалі
З ім вясною на траву!“ —

Эх, паны і ўсе паўпанкі,
І ўсе іншыя паны,
Ня ўбірайце вы заранкі
У хаўтурныя званы!...

Распусьцілі дарма сьлёзы...
Хто паверыць гэта вам?
Хто рабіў яшчэ цьвярозы
Па сабе хаўтуры сам?

Хіба стрэліць вам „Маланка“,
Вось тады — прапаў — пішы,
А цяпер — пад хмелем сванка
Прывітала ад душы...

Сват, ці сванка — не да рэчы
Ані знаем — свой свайму
Не праколе дарма плечы —
Ані свату, ні куму.

Ці-ж сакрэт панком ня сьпіцца?
Разумнейшы сват за вас —
Ад гурткоў ён адчапіцца
Хоча крошкаю на квас...

З Новым Годам!... Каб маўчалі,
Ня трывожылі Вам сну —
Сват за вас у шчырым жалі
Абяцаў зямлі па шалі

Мо' на сотнюю вясну.
Ды каму? Мо' нам запраўды?
А асаднікі нашто?
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .

Дзеля нас-жа? Абяцанкі...
Разьзяўляйся толькі рот —
Ды чакай свае дзялянкі
У дзьвёхсотні хіба год...

**І. Ладанчук.**



## Дабрахвочы.

З мужыкамі раз у сьвята
„Пагаданку“ пан разьвёў,
Гаварыў аб ўсім багата
І на хваробу рэч узьвёў.
—Што то ёсьць? *Нех пан Бук броне!*

(Мужыком так пан гамоне),
Ну, проста страх мяне бярэць:
Хвароба езьдзіць на хваробе —
Як дзень—хто-небудзь ды памрэць!

Нарэшце гэтымі вось днямі
Знашлася новая: чаго
Ўвесь твар наберацца прышчамі,
Што не дакрануцца да яго!

Вось і ў мяне па ўсяму твару
Прышчы, што мак, а як баляць!
І мажу іх, і мыю, й пару,
А ўсё няможна іх сагнаць...

— Даруй, панок!—учуўшы гэта,
Пачаў казаць Янук нясьмела :—
Якраз, як пан, мая Праксэта
Хваробу гэткую вось мела.

Няйнач як з лазьні... Драбней маку,
(Каб пану яе павек ня мець) —
Прышчы ссадзілі бабе. ..
Што не магла ані сядзець.

Але ад мазі (што ты скажаш!..)
Праз дзень адзін, як ня былося.
А можа, пан, свой твар памажаш?
Я мазі дам,—што засталося!..

**Янка Башкір.**

### „ГІСТАРЫЧНЫ“ СУРДУТ.

— Чаму ты, Рыгор, ня носіш больш таго чорнага сурдута?

— Я павесіў яго ў шафу асобна і шаную, як рэч гістарычную.

— Гэта-ж не напалеонаўскі сурдут—чым-жа ён гэтак памятны?

— Падумай сабе. Сем разоў хадзіў у гэтым сурдуце да старасты за пашпартам; быў у ім арыштаваны, білі мяне па гэтым сурдуце на пастарунку і ў дэфэнзыве. Пасьля прасядзеў у ём паўтара года ў вастрозе, а як выпусьцілі, ды два гады, штотыдня, хадзіў мэльдавацца, а ўсё ў гэтым сурдуце. Вісеў ён у гміне за падаткі, а пасьля быў сьведкай „культурнага“ нападу на зьезд Грамады.

Дык вось якую багатую гістарычную мінуўшчыну мае мой сурдут! Каб ён трапіў у Амэрыку, або Англію, дык-бы там павесілі яго ў музэі і дзівіліся-б на яго больш як на новазнойдзеную мумію фараона.

Ня трэба далёка шукаць гістарычных памятак, яны ў кожнай беларускай хаце ёсьць.

**Зязюля.**

## Польскіх паноў слугі.




**Селянін першы**: Што гэта за хата стаіць, мусіць карчма якая, бо нешта незнаёмае на вывесцы напісана?

**Селянін другі**: Гэта напісана папольску П. П. С. (*„польска партыя соцыялістычна“*).

— А як гэта трэба зразумець пабеларуску?

— Польскіх Паноў Слугі!..

## Скачы Ямеля, — твая нядзеля.

Тэй ночы, калі па ўсёй Вільні і на правінцыі адбываліся вобыскі і арышты беларускіх паслоў і дзеячоў, у „Беларускай“ Хатцы адбываўся ўрачысты банкет з прычыны адчыненьня новай *„спэлюнкі“* (дом азартных гульняў), галоўнымі заправіламі якое зьяўляюцца „доктар“ Паўлюкевіч і „князь“ Друт-Байкопіс.

(*З газэт*).




— Чым таргуеш?
— Ліманядай!
З кім *танцуеш?*
— З *шопкай* „Радай“.

### ГАЛАТА ВЫХОДЗЬ!..

З царквы валіць натоўп. Праяжджаючы чужы парахвіянін пытаецца:

— Ці ўжо ў вас скончылася імша?

— Яшчэ не, але поп закрычэў: „агалочаныя ідзіце *)“, — дык нам ужо і пара дамоў.

— Чаму-ж гэта?

— Вядома чаму! Ад розных падаткаў, дадаткаў, налогаў, залогаў гэтак нас агалацілі, што мы ўжо і ў царкве непатрэбны. Як убачыў поп, што мы прышлі, ды нічога не прынясьлі, дык і крычыць, каб галата выходзіла. Вось мы і выходзім, толькі „кулакі“ застаюцца.

**Зязюля.**

### БЕЗ ГАЛАВЫ ЛЕПЕЙ.

Начальнік павятовага „ужэнду“ абурaўся на селяніна, які прышоў ужо чацьверты раз у аднэй справе.

— Да ты галаву на плячох маеш?! — крычыць пан на селяніна.

— Вось у тым-то, панок, уся мая бяда, што галаву маю, — спакойна адказвае селянін.

— А што ты думаеш, без галавы можна жыць?! — яшчэ крапчэй крычыць пан.

— Я вось, як бачу, дык вы ўсе тут безгаловыя, а як добра жывяцё — спакойна адказаў селянін.

**Я. Шкір — Ба.**

*) Паславянску зн. „оглашенніи ізыдите“.

# Новагоднія прадсказаньні.

**Вывяд рэд. „Маланкі“ у хіраманта-графалёга А—Ва—Днеўскага, записаны 13-га студня 1927 г. (дзень нешчасьлівы).**

Новы Год настаў пад знакам запытаньня.

У Кітаі — Кантоны, у Ліцьве — Сьметоны, у Польшчы—стагнацыя, у Варшаве — санацыя, у эндэкаў — бяда, у беларусаў—«Грамада».

I гэтак бяз конца.

А для нас, рэдактароў—бяда на бядзе едзе дый бядой паганяе. Урад аб нас гэтак думае, гэтак дбае, што прэсавыя дэкрэты, як бліны, пячэ.

А ўсё гэта з Новым Годам!

Вось і згадай, для каго Новы Год будзе—бацькам родным, а для каго—мачахай?

Каму гэты год будзе спрыяць, шэнціць, а каму дакучаць, як той Мацеевай душы?

Гэтак думаючы і ламаючы галовы, наша рэдакцыя пастанавіла




*... а беларускі народ і найдалей будзе яднацца ў свае легальныя беларусскія арганізацыі.*

выслаць свайго дэлегата да слаўнага на ўсю Заходнюю Беларусь—графалё-астролё-хіроманто-чорнакніжніка і містра ўсіх эгіпэцкіх і тайна-магічных навук А—Ва—Днеўскага.

Чамусьці выбар упаў на мяне.

Прышлося ісьці.

Іду, і чым бліжэй зближаюся, нейкі таемны страх усё болей і болей агортвае мяне.

Усё страшыць мяне той чараўнік — чорнакніжнік.

Прышоў. Пазваніў. Адчынілі.

Хірамант заняты,—інтэрэсантаў прыймае.

Чакаю. А сэрца ўсе мацней і мацней стук... стук... стук... пад кашуляй.

На сьцяне вісяць сотні чорных адбітак рук. Пальцы страшныя, як у шкілетаў, шырока ражджагераныя, як-бы каго душыць хочуць.

Страшна...

З „габінэту“ выйшаў інтэрэсант, сьціскаючы плячыма, а да мяне пачуўся голас:

— Проша!

Хірамант са страшным відам, з валасамі, знарок гады два ня стрыжанымі.

— Вам варажыць на руку, лоб, нос, на карты, ваду, каву?..



*... лідэры „Сялянскага Саюзу“ будуць вясьці усіленную працу па вербаваньні новых сяброў у партыю.*

Як зручней, абы толькі праўду,— голасам, як з-за дамавіны, прагаварыў я.

— Добра, будзем на руку.

Узяў маю руку, круціў, вярцеў, шчупаў, мацаў, нюхаў, троху лізнуў, дый кажа:

— Дух эгіпэцкага фараона, які будзе гаварыць з вамі, трэбуе ад вас тры злотыя.

— Добра, што ня болей, — падумаў я і вылажыў тры злотыя на стол.

— Ну, цяпер слухайце, кажа хірамант. Гэта буду гаварыць я, але гэта ня я, але дух эгіпэцкага фараона будзе гаварыць праз мае вусны.

Хірамант дзіка высалапіў вочы зрабіў страшны выраз твару, як у местачковага камэнданта паліцыі, і пачаў таямніча разводзіць пад маім носам рукамі, завучы нейкіх зачарованых духаў.

Вы радзіліся на посьцілцы недалёка ад вакна ўночы, — затое маеце на галаве валасы чорныя.

Як радзіліся, дык негдзе вылі сабакі,—затое вы маеце здольнасьці да сьпеву.

Як хрысьцілі вас, дык поп глядзеў у кніжку, — затое вы маеце здольнасьці да навук.

У моладасьці вы ня любілі, калі вас б'юць, або цягаюць за вушы ці валасы, затое вы любіце абедаць, седзячы і ўночы спаць.



*... і жабракі з-пад Вострай Брамы будуць мець для сябе небясьпечнага конкурэнта.*

Матка ваша была жанчына,—затое вы маеце шчасьце ў каханьні.

Згадаўшы такім чынам усю маю мінуўшчыну, хірамант адкрыў чорную кніжку, пачытаў, пашаптаў, тры разы плюнуў у кут, дый кажа:

Будучнасьць ваша знаходзіцца пад знакам скорпіёна, бо радзіліся вы, як на небе была луна (месяц), а ў рэчцы былі рыбы, дык затое вам трэба зімой высьцерагацца маразоў, а ўлетку грому, вясной ня трэба пачынаць каханьня, а ўвосень ня есьці сырых грыбоў, а асабліва мухамораў. Спаўняючы ўсе мае рады, можаце пражыць да глыбокай старасьці, пакідаючы па сабе вялікую памятку і славу.

Я аж ахнуў ад зьдзіўленьня: гэта-ж столькі праўды, чысьцейшай праўды аб маім жыцьці!

Але ня тое мне было на сэрцы. Будучнасьць майго краю, яго палітычная сытуацыя мне не давалі спакою.

Я задаў чараўніку - хіраманту некалькі пытаньняў, датычна бліжэйшых гараскопаў на жыцьцё Заходняй Беларусі, яе партыяў, арганізацыяў і інстытуцыяў.

Хірамант зноў вызваў дух эгіпэцкага фараона, які на гэты раз




*Шумная на віленскім грунце „партыя“ эсэраў нарэшце знойдзе сабе новую орыентацыю.*

казаў мне заплаціць пяць злотых

Калі грошы счэзьлі ў кішані хіраманта, ён пачаў паўтараць над маім носам мне таямнічыя жэсты.

Прыняўшы ўрачысты від, пачаў хірамант:

— Новы Год для Заходняй Беларусі пачнецца новымі цяжкімі, спробамі. Пасьпех „Грамады“ настолькі настрашыць паноў, што ў віленскіх і правінцыянальных магазынах стрэльбаў і паляўнічых прыладаў ня хопіць *броні* дзеля ўзбраеньня „крэсавае шляхты“. Польскія газэты штодзенна будуць біць на „алярм“. У урадзе будуць частыя рэконструкцыі і зьмены міністраў з прычынаў розьніцы поглядаў на становішча „Грамады“. Напады на паслоў будуць адбывацца і далей, але пераможцай будзе заўсёды беларускі народ.

Пры гэтых словах хірамант папярхнуўся, нешта задумаўся, зморшчыў лоб, пасьля дзіка засьмяяўся дый кажа:

— Ой, ліха, нейкае ліха чакае „Грамаду“. Вось дух эгіпэцкага

фараона шэпча мне, што аднэй ночы, калі тройчы прапяюць пеўні і ўвесь працоўны беларускі люд будзе спаць, — нейкія чорныя цені, крадучыся праз беларускія месты і вёскі,ператрасуць тысячы кватэраў, затрымаюць сотні людзей. І... доўга ўрад будзе апекавацца некаторымі грамадзістымі, даючы ім казённыя кватэры з дармовымі харчамі, цяплом, сьвятлом і абслугай.

Гэтакія „сталыпінскія рэформы" ваяўнічага міністра пашкодзяць яму самому, бо *„успокоенія"* ён ня дасьць „крэсам", свайго польскага *круля* т-кі не дачакаецца і зьнікне, як пара, пакідаючы надоўга па сабе благую, цёмную памятку. Доўга яшчэ беларускія маткі будуць страшыць малых дзетак яго імем.

А беларускі народ, сьведамы свaей магутнай сілы і праўды, і надалей будзе яднацца ў свае легальныя беларускія сялянска-работніцкія арганізацыі.

Для беларускіх рэдактароў будуць, час ад часу, вызначацца „кон-



*... пісьменьнік Краў-Мак яшчэ доўга будзе стаяць на раздарожжы.*

курсныя прэміі" ў тры, пяць і болей тысячаў злотых „штрафу", або шэсьць месяцаў казённай апекі. У школьнай справе будуць дадзены некаторыя палёгкі. У утраквістычных школах будуць уведзены беларускія лекцыі, як напр: гульня ў сьнежкі, сьлізганьне па лёдзе і др.

У жыцьці іншых партыяў адбудуцца значныя зьмены. Гэтак лідэры „Сялянскага Саюзу" будуць вясьці ўсіленную працу па вербаваньні новых сяброў у партыю.

Будучыня гэтай партыі вельмі неясная. Нейкія вялікія віхры, якімі будзе багат гэты год, будуць хістаць гэту партыю, то ў адзін, то ў другі бок. Нават разгром „Грамады" ня дасьць ёй вялікага сукцэсу. **„Зямлі Сялянству бяз выкупу!"** — ад ураду не адтрымае, **Волі** — не даб'ецца, **Незалежнай Беларусі** — ня злуча і тагды толькі зразумее, што сіла — толькі ў еднасьці. Орган яе — „Сялянская Ніва", на вялікі жаль, у гэтым годзе, як і ў мінулым, будзе займацца партыйнай грызьнёй і будзе чарніць тых нявінных беларусаў, якія ёй чамусьці не спадабаюцца.

У „тымчасовэй", ці як яна сябе вялічае „Нацыянальнай" Радзе адбудуцца вялікія катастрофы. Урад закрые свой крэдыт „на чаюшку" і... жабракі з-пад Вострай Брамы



*... аж пакуль праціўнік не пабора праціўніка.*

будуць мець для сябе небясьпечнага конкурэнта. Будзе ім, — благой памяці „доктар" Аранжуэц-Павлюкевіч.

Пры гэтых словах у хіраманта мімаволі выціснулiася сьляза з вачэй, відаць, шкода яму стала свайго колішняга хлебадаўца.

Выцер хірамант белай хустачкай вочы, паглядзеў яшчэ раз мне на рукі, лоб, нос, шыю дый кажа далей:

— Шумная на віленскім грунце „партыя" эсэраў нарэшце знойдзе сабе новую орыентацыю. Ня будзе яна, („партыя", значыцца) больш хадзіць па чужых рэдакцыях і інстытуцыях, страшыць, тэрорызаваць, а што галоўнае, перашкаджаць другім у працы.

Распачатая ў мінулым годзе „палеміка" двох варожых беларускіх газэтаў, на вялікі жаль, будзе прадаўжацца і далей, аж пакуль праціўнік не пабора праціўніка.

Вядомы беларускі пісьменьнік Краў-Мак яшчэ доўга будзе стаяць на раздарожжы паміж дзьвюмя рэдакцыямі.

У праектаваны ім, „Саюз лішніх" увойдзе некалькі новых сяброў, якім збрыдне купацца ў віленскім мутным балоце, — закончыў хірамант загадкова.

Візыт мой бліжыўся к канцу.

Хірамант паскрабаў пяцярнёй тое месца, скуль у яго ногі ра-



*... банк перанясецца да новага памешканьня і зажывець сабе з камфортам.*

стуць, два разы зяўнуў на дадатак і кажа, што дух эгіпэцкага фараона, які гаварыў увесь час са мной, адпачыць хоча.

Пры разьвітаньні мне прышло ў галаву, што я ўсё-ж дорага заплаціў, а ўсіх пытаньняў ня выясьніў.

— Што яшчэ хочаце? — спытаўся хірамант, бачачы, што я ня выходжу.

— Скажэце, калі ласка, — кажу я, як будзе разьвівацца наш беларускі банк?

Хірамант зноў раскрыў чорную кніжку, пачытаў, пашаптаў, спытаўся ў якім месяцы нарадзіўся банк.

Я адказаў.

— Беларускі Бан перажыве некалькі крытычных мамэнтаў. Будуць рэвізіі, прасьледаваньні кіраўнікоў. Брудныя газэты падымуць пра банк нячуваную брахню, але сабачая лаянка нікому не пашкодзе і банк з кожным днём будзе разьвівацца памысна, а ў канцы году перанясецца да новага памешканьня і зажывець сабе з камфортам.

Яшчэ я задаў некалькі апошніх, але самых балючых для мяне, пытаньняў:

— Які лёс у гэтым годзе спаткае „Маланку"?



*Кожны сьвежы нумар „Маланкі" будзе іскрыцца вастратой, дасьціпам, жартамі.*

Ці зьяднае яна сабе патрэбны лік падпісчыкаў?

Ці будзе, як калісь, выходзіць акуратна?

Хірамант яшчэ раз глянуў у кнігу, задумаўся, паківаў галавой і кажа:

— „Маланка" таксама радзілася ў шчасьлівым месяцы, а дзеля таго можа мець вялікую і багатую прышласьць. Калі ўдасца рэдакцыі абыйсьці ўсе тыя перашкоды, якія з новым годам радзіліся на сьвет, дык лік новых падпісчыкаў будзе з кожным днём расьці і расьці, і ў хуткім часе дайдзе да такой лічбы, аб якой дагэтуль ня сьнілася ніводнай беларускай часопісі. Кожны сьвежы нумар „Маланкі" будзе іскрыцца вастратой, дасьціпам, жартамі.

— Дык вось якая сьветлая будучнасьць чакае вашу „Маланку"! — пацешыў мяне на разьвітаньне хірамант.

Я з радасьці не пашоў, а пабег падскакваючы дамоў.

**Язэп Грамабой.**



# СЬВЕЖЫЯ НАВІНЫ.

✕ Кажуць, што ў сувязі з апошнімі падзеямі ў Заходняй Беларусі, сярод польскіх паноў і шляхты запанавала эпідэмія wścieklizny. Хто прачытае „Słowo“, „Dziennik Wileński“, або „Kurjer Wileński“, раптоўна дастае шалу і кідаецца на нявінных людзей. Яд гэтых газэтаў настолькі сільны, што нават сабака, зглёдзіўшы газэту здалёк, у момант дастае сьмерці.

✕ Кажуць, што па выхадзе беларускіх паслоў з „Лукішак“, тыя „пакоі“, дзе сядзелі гэтыя паслы, будуць неадкладна перабудованы на „Санаторыю для заслужоных рэдактароў“, куды Віленскае Т-ва апекі над вар'ятамі мае ў хуткім часе памясьціць Cat'a, Obst'a, Bor'a і іншых „прыяцялёў“, бо ўсе, існуючыя ў Польшчы шпіталі для umysłowo chorych (вар'ятаў) адмовіліся іх прыняць дзеля іх буйнага памяшаньня.

✕ Кажуць, што віленскі саюз асэнізатараў мае замер запрасіць г. Cat'a (з рэдакц. „Słowo“) быць пачэсным прэзэсам іхняга саюзу.

✕ Кажуць, што Сталыпін у пекле, даведаўшыся пра арышты беларускіх паслоў у Польшчы, пачырванеў ад стыду і сказаў: „Мои ученики перехитрили меня!“.

✕ Кажуць, што арышты беларускіх паслоў і дзеячоў адбыліся дзеля таго, што кожны з іх, кладучыся спаць, піў гарачую гарбату, а гэта лічыцца як *„гороньцы учынэк“*.

✕ Кажуць, што „доктар“ Паўлюкевіч, даведаўшыся аб разгроме „Грамады“, маніцца выпусьціць адозву да беларускага грамадзянства, ў якой страша, што тыя беларусы, якія ня будуць хадзіць у яго „Беларускую“ Хатку праіграваць грошы, або ня будуць чытаць яго „Беларускага Слова“ будуць арыштаваны, як *вывротовцы* і *комунісьці*.

✕ Кажуць, што адзіны беларускі князь Друк-Байкопіс з прычыны палепшаньня інтарэсаў у яго „Беларуск. Хатцы“ казаў пабольшыць сабе порцыю „монополювкі“ ўдвоя.

✕ Кажуць, што пры рэвізіі ў памешканьні рэдакцыяў „Narodny Zwon“ і „Маланка“ паліцыя забрала адрасы падпісчыкаў гэтых часопісаў дзеля таго, каб памагчы рэдакцыям зыскаць падпіску з тых падпісчыкаў, якія дагэтуль ня прыслалі належнай падпіснай платы.

# Сярдзітыя бацькі.

Польскі міністар замежных спраў Залескі сказаў, што Польшча гатова заключыць саюз з С. С. Р. Р. аб нэўтральнасьці

*(З газэт ў).*



**ПОЛЬСКАЯ ПАНЕНКА ДА БАЛЬШАВІКА:**

— Ой, рада-б была я з табой пабрацца, але бацькі мае (Англія і Францыя) на гэта не дазваляюць.

## ВОСТРЫ ЯЗЫК.

Едзе асаднік у сваю новую асаду на „крэсах“. У вагоне разгаварыўся з селянінам - беларусам.

— Ці ў вас водзяцца пчолы? — пытаецца асаднік.

— А як-жа, яшчэ якія! як пятухі (пеўні).

— Вось дзіва! — думае асаднік. А як-жа яны ў вульлі лезуць, мусіць дзіркі вялікія?

— Не, дзіркі малыя, але хоць пішчаць, а лезуць!

— Дурняў у вас многа? — пытаецца сьмяючыся асаднік.

— Ня ведаю, здаецца зусім няма, але як пан прыедзе, дык толькі адзін будзе. **Сыч.**

## НА ГЭТА ТРУДНА.

Адзін з міністраў цяперашняга польскага ўраду заўсёды ўжывае словы: „byczo, byczy, bycza“ і гэт. далей, што павінна азначаць – добра, добры, добрая і. г. д.

Аднаго разу, зьведваючы адно са староstваў на Паморы, калі яго запыталіся, што ён хоча сабе на вячэру, адказаў пытаньнем:

— А ці маеце тут bycze малако? „Mucha“.

# Усюды „Грамада“.

І трэба-ж ткі няшчасьце
Такое мужыку!
Палез на хату правіць
Мікіта наш страху.

Узьлез, на стрэсе
Ад дожджу мох адсьліз.
Мікіта скапыціўся
І паляцеў уніз.

Пры хаце, як на тое,
Высокі частакол.
Мікіта, як валіўся,
Дык бокам прост на кол!

Уехаў кол у скабы,
Што сноп мужык вісіць.
— Ратуйце, людцы, гіну! —
Мікіта ледзь крычыць.

Пачула жонка, гвалту
Крычыць на ўсё сяло,
У момэнт да Мікіты
Суседзяў як зьмяло.

Хутчэй з кала Мікіту
Рыхтуюцца зьнімаць,
— Ня рухаць!—крычыць солтыс:—
Кажу вам не чапаць!

Ў Лукішках ня бывалі,
Дык хочаце пабыць!
Пакуль нет камэнданта,
Мікіта хай вісіць!

Прыездець ён, збадаець,
Напішаць пратакол,
Тады сабе зьнімайце
Па мне хоць частакол! —

Тут зноў у сьлёзы жонка:
— „Дакуль-жа будзем ждаць...
А мой-жа ты Мікітка,
І... вочкі не глядзяць!“...

А солтыс ня пускаець,
Крычыць на бабу: — Вон!
Рабіць я гэтак мушу,
Як кажаць мне закон.

Тут справа не такая,
Што можна скрыць сьляды:
Уся гэта работа
Я бачу — „Грамады!“

**Яшка Башкір.**



## ДОБРА ЗАПОМНІЎ.

Прапала ў пана стрэльба. Вялікія пан суліць грошы таму, хто дакажаць, у каго стрэльба.

Прыходзіць да пана Бэрка.

— А знаеш, пан, у каго твая стрэльба?— У Тырчыка Мікалая— сьведчыць Бэрка.

— А ты добра знаеш, што ў яго мая стрэльба? — пытаецца пан.

— Паночак! Каб я панскай стрэльбы не пазнаў! Я яе яшчэ тады добра знаў, калі яна і стрэльбай ня была, а толькі вось гэткім малюсенькім пісталецікам быў!

# Народны гумар.

### „БАЛЬШАВІКІ.“

Паліцыянт, праходзячы праз вёску, пытаецца селяніна:

— Ці ў вашай вёсцы ёсьць бальшавікі?

— Не, — адказвае селянін, — у вёсцы няма, але ў двары дык ёсьць.

— Што?! — зьдзівіўся паліцыянт.

— Бальшавікі ёсьць, — спакойна адказвае селянін.

— А хто?

— Абшарнік і ксёндз. Яны ўсё завуць сябе: „мы паны і бальшыя (вялікія) людзі... *Ф. В.*

### НА КІРМАШЫ.

Падходзіць паліцыянт да селяніна і крычыць:

— Выкладай каня!

— У мяне ўжо конь вылажаны.

— А ты чаго стаіш? — зварочваецца паліцыянт да другога.

— У мяне, панок, кабыла.

Селянін у селяніна купляе парсюка, а з боку стаіць шляхціц і завець да сябе:

— У мяне купляй, *я маю два вепшы.*

— Хоць у цябе ўдвая лепшы, але даражэйшы, — адказвае селянін, *С...*

### ГАРЭЛКА ПАМАГАЕ.

Бядуюць сяляне, што прыдзецца плаціць падатак за коміны.

— А я плаціць ня буду, — адказвае ўсьцешаны Даніла, бо я хоць гарэлку п'ю, затое коміна ня маю.

### ДОБРАЕ ЗЕЛЬЛЕ.

Пачаў наш грамадзкі солтыс падлізвацца да паноў, а перад „вуйтам“ так, як чорт перад Люцыпарам, скача.

Запрасіў, аднойчы, солтыс да сябе войта ў госьці і прыгатаваў гарэлкі і закускі, як на вясельле якое. Прыехаў войт і пачаў частавацца, аж разоў з семнаццаць спацеў. Пачуў войт, што нешта грозна забурчэла ў жываце, аж млосна зрабілася.

— Ратунку! паміраю! — крычыць войт на ўсю хату.

Пазвалі „доктара“, што ў войску санітарам служыў. Той агледзіў „хворага“, паківаў гал вой дый кажа:

— Вось табе, войце, пяць экзэмпляраў газэты «Беларускае Слова» — ужывай усю дарогу, дык здароў будзеш, як дуб! **Пяро.**

## У дабрадзея.

Французскія капіталістыя пачалі старанні перад амэрыканскімі банкамі аб пазычцы для Польшчы.



**БРЫЯН ДА АМЭРЫКАНЦА:**

Ня дайце сіраце загінуць; хлопчык здольны, старанны.

### І ДЛЯ ДУРНЯЎ ЁСЬЦЬ.

Сэкрэтар гуртка «Грамады» стараецца ў старостве дазволу на сход сяброў свайго гуртка.

— Дэклярацыю маеце? — пытаецца рэфэрэнт.

Сэкрэтар падаў дэклярацыю. Рэфэрэнт доўга глядзеў на тую старонку, дзе дэкларацыя напісана пабеларуску, аддае назад ды кажа:

— *Але на тэй мове, я естэм глупі* (дурны)!

— А, для *глупіх* ёсьць на другой старане, дзе напісана папольску. *Р.—М.*

### АБІДЗЕЛІСЯ.

На рагу Вострабрамскай і Гэтманскай вуліцы спатыкаюцца два „дзеячы“. Адзін у белай шапцы, другі з партфэлем у руках і ў новым кажушку.

**„Дзеяч“ з партфэлем:** Чуў?! Заарыштавалі галоўных пав дыроў „Грамады“, а ў мяне нават і вобыску не рабілі... Гэта-ж проста абіда!

**„Дзеяч“ у белай шапцы:** А ў мяне хоць і рабілі вобыск, але забралі, каб іх ліха, мае паперы, а не мяне. Гэта-ж людзі могуць падумаць, што я малая шышка, а я прэзэс нашага саюзу.

**„Дзеяч“ з партфэлем.** А як-жа, проста абіда! Пра мяне тое самае могуць людзі падумаць, а я, мусіць, што-небудзь значу, калі ў беларускім календары мая асоба памешчана разам з працоўнікамі сэкрэтарыяту.

*А-ку-ку.*

### СЬВЯТОЧНЫЯ ПАДАРУНКІ ВЯСКОВЫМ ДЗЕТКАМ.

— Ну, даў табе, што бацька на Каляды? — пытаецца ў свайго малога пляменьніка, прыехаўшы з гораду ў госьці, дзядзька.

— Мне то дрэнь, — адказваец пляменьнік: — Можа разы тры папалася, але Мікалаю вось дык дзягай даў на першы дзень!... Вось дык даў!...

# „Патрыёты“ і „ідыёты“.




## У Польшчы.

**Паліцыянт**: Нашыя сяляне вялікія патрыёты. Як толькі даведаліся, што ўрад падняў цану на гарэлку, дык п'юць як мага болей і... добра,—хай сабе скарб узбагачваецца.




## У Заходняй Беларусі.

**Паліцыянт**: Гэтыя беларускія мужыкі на „Крэсах“ чыстыя ідыёты: носяць пачкамі ў гміну дэклярацыі на беларускія школы, якія будуць мо' ажно пры цару Гаросе.

## НАША ПОШТА.

**К. Гр.** Пажалейце нас і ня пішэце больш такіх вершаў, за якія маглі-б сканфіскаваць нашу „Маланку“.

**Ў. Ініцкі**. Спачуваем Вашай нядолі і жадаем хуткага вызваленьня. На вялікі жаль вершаў Вашых зьмясьціць ня можам, бо ў іх няма самага галоўнага—гумару.

**Пётра Сьвістун**. Да верша Вашага, дзе ёсьць гэтакія кветкі, як

*„Назавецесь вы братамі*
*„Дружной раціі сяброў“*

трэба казённага перакладчыка, бо мы нічога че зразумелі.

**Сьцяпан Асот**. У сваім вершы Вы перарабілі ўсім вядомае апавяданьне, друкаванае ў беларуск. кніжках яшчэ перад вайной. Зьмяшчаем толькі ўласныя арыгінальныя творы.

**Крытык**. На тое, што дзяўчаты ў вашай вёсцы старыя, а дзеля таго ніхто іх ня хоча браць замуж, — нават і „Маланка“ ніякай рады даць ня можа. Верш Ваш, слабы.

**Амільянчык**. Шкода, што Вы з віленскім Камісарам Ураду не знаёмы, можа ня пісалі-б такіх сярдзітых вершаў, як «Помач».

**Сушкоўскі**. Вершы сьмешныя, але трэба каля іх тры дні працаваць, каб давясьці да ладу.

**М. Васілёк**. Што Вы замоўклі? Пішэце часьцей. За Вашы вершы высылаем Вам на памятку ад „Маланкі“ два календары (адрыўны і кніжку).

КУПЛЯЙЦЕ!
—) Новы ў другім выданьні (—

**Беларускі Адрыўны Календар (блёк) на 1927 г.**

Першае выданьне ў вялікім ліку разыйшлося ў працягу ўсяго двох тыдняў, што сьведчыць аб вялікай дабрыні і карыснасьці беларускага адрыўнога календара.

**ЦАНА 1 зл. 30 грош.**
(Перасылка ад 1-го да 5-цёх экз. 50 грош.
*Перапрадаўцом вялікая скідка!*
З заказамі зьвяртацца да Беларускай Кнігарні Выдав. Т-ва *Вільня, Вострабрамская № 1.*

**Хай моладзь і закаханыя запамятаюць**

што ўжо пачаў друкавацца новы беларускі ФЛІРТ

**„МАЛАНКА“!**

Вельмі вясёлая і забаўная таварыская гульня для моладзі і дарослых.

Хто купіць флірт **„Маланка“**, той у часе гульні будзе заходзіцца ад сьмеху, бо самыя сьмяшнейшыя, самыя дасьціпнейшыя, самыя вастрэйшыя пытаньні і адказы зьмешчаны толькі ў новым флірце **„Маланка“**.

**Ня купляйце іншых фліртаў, а трэбуйце толькі беларускі флірт „Маланка“!**

Аб паступленьні ў прадажу флірту „Маланка“ будзе абвешчана ў газэтах.

Рэдактар-выдавец М. Луцэвіч. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.